## НАТАЛЛЯ УЛАН
### МОВА, ЯКУЮ МЫ СТРАЧВАЕМ

За апашнія чатыры гады шмат неабходнага дзеля *існавання нацыі страцілі беларусы.* Рэферэндумнай сякерай адсеклі бел-чырвона-белы сцяг, Пагоню, галоснасць, самастойнасць і ўраўнаважанасць усіх галін улады, аб'яднаўшы іх у нейкую вертыкаль, функцыі якой звяліся выключна да кантролю за звышпасланымі ўказаннямі. Быў замах і на мову - першае і апошняе, што ёсць у народа, які жадае ўсвядамляць сябе нацыяй, а не часткай нечага фальшыва выведзенага - савецкага. Здаецца, бяскрыўднае наданне і рускай, і беларускай *мовам статуса дзяржаўных прывяло, бадай, да поўнага* знікнення беларускай мовы з дзяржаўных дакументаў. Практычна ў Беларусі не існуе беларускай мовы як мовы дзелавых зносін. Хто не згодны, хай завітае на якую-небудзь сесію райсавета ці паседжанне райвыканкама і паслухае даклады вертыкальшчыкаў або прамовы дэпутатаў. Большасць з-за недахопу адукацыі карыстаецца трасянкай, некаторыя размаўляюць на рускай мове, адзін, добра, калі два, - на беларускай. Яны ж лічацца *нацыяналістамі і прыхільнікамі БНФ незалежна ад асабістых палітычных поглядаў.* Непрыкметна ў грамадстве складаецца сітуацыя падзялення па моўнай прыкмеце і рэальна існуе небяспека дыскрымінацыі па ёй жа. Іншымі словамі, прыйдзем неўзабаве да таго (зразумела, калі курс кіраўніцтва краіны не зменіцца), што людзі будуць баяцца па-беларуску размаўляць.

Зараз ужо існуе становішча, калі маці не жадаюць вучыць сваіх дзетак па-беларуску. Гэта не проста *словы, на жаль,* аб гэтым сведчаць лічбы. І яны жахлівыя.

У Смаргонскім раене (бяру гэты раён, бо ў ім жыву і працую, але ва ўсіх сітуацыя падобная) 37 школ, дзе набывае адукацыю 11 тысяч дзяцей. Усе школы (акрамя адной) лічацца беларускамоўнымі яшчэ з дарэферэндумнай эры і да гэтай пары такімі засталіся. На паперы. На самой справе прадэклараваны беларускамоўны статус становіцца з кожным годам усе большай фікцыяй, бо ў кожнай беларускай школе адкрыты рускамоўныя класы, колькасць якіх усё расце. Параўнайце. У 1993 годзе ў Смаргоні і Смаргонскім раене 663 першакласнікі навучаліся на беларускай мове і 125 - на рускай, а у 1997 годзе - толькі 359 на беларускай. На рускай ужо - 376. Такія суадносіны лічбаў - стойкая тэндэнцыя. (Глядзіце табліцу.) У новым 1998 навучальным годзе сітуацыя не змянілася. Па заявах бацькоў, якія маюць права выбіраць мову навучання, ва ўсіх беларускамоўных школах будуць працаваць класы з рускай мовай навучання, прычым іх колькасць альбо такая ж, як беларускамоўных (Смаргонская беларуская гімназія №4), альбо значна большая. Напрыклад, у Смаргонскай беларускамоўнай *школе №5 з 11 першых классаў толькі 3 будуць беларус*камоўнымі, у СШ №1 (таксама беларускамоўнай) усе першакласнікі будуць навучацца на рускай мове. Сістэма выбару мовы навучання максімальна спрошчана. Мамам і татам школа дае стандартны бланк заявы, дзе трэба толькі падкрэсліць жаданую мову навучання, і паведамляе, што можна вучыць іх дзіця ў рускамоўным класе. Зразумела, само існаванне такога стандартызаванага бланка перакрэслівае магчымасць адраджэння сістэмы *нацыянальнай адукацыі. Але і гэты бланк заявы яшчэ не* апошняе. Практычна аднолькавая колькасць гадзін беларускай і рускай моў у беларускамоўных класах,адсутнасць спецыялізаваных падручнікаў, рускамоўнае асяроддзе, захаванае з савецкіх часоў, руская мова навучання вышэйшай школы адукацыі вядуць нават навучэнцаў беларускамоўных класаў да трасянкі - вартай жалю пародыі на мову, бо нельга мець дзве родныя мовы, як нельга мець дзве радзімы ці дзвюх матуль. Усе ж мы вяртаемся да савецкага ўзроўню выкладання беларускай мовы, да тых часоў, калі на вуліцах нашай краіны наогул нельга было яе пачуць. І гэта дзяржаўная палітыка. У сучаснай Беларусі створаны ўсе умовы дзеля заняпаду нацыянальнай мовы. У выніку толькі нязначная частка інтэлігенцыі карыстаецца ёю ў паўсядзённым жыцці. Большасць, на жаль, не здольна пісьменна выказаць уласную думку ні па-руску, ні па-беларуску, існуючы ўсе ў тым жа штучным свеце трасянкі. Свеце, дзе няма такой нацыі - беларус, бо шлях да трасянкі - гэта шлях нацыянальнай смерці. Вельмі доўгі і вельмі цяжкі, але рэальны.

Так... Жудасна ўявіць сабе, што калі-небудзь памрэ апошні, хто ведаў пяшчотнае беларускае слова "каханне".




*Табліца, якая адлюстроўвае колькасць школьнікаў з беларускай і рускай мовамі навучання з 1991 па 1998 год па Смаргонскаму р-ну*






## ЮРАСЬ КАРМАНАЎ
### БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА ЗАМЕЖНЫХ КАЛЕГ

**Нядаўна па запрашэнні беларускага прадстаўніцтва амерыканскай фундацыі АЙРЭКС Беларусь наведаў Ян Урбан. У чэшскім дэсідэнцкім руху спадар Урбан з 70-х гадоў. Сышоў з палітыкі пасля таго, як перамог на нацыянальных парламенцкіх выбарах у чэрвені 90-га года. Працаваў журналістам, у тым ліку ў краінах былой Югаславіі. Зараз выдае часопіс "Транзішн", што асвятляе сітуацыю ў 27 посткамуністычных краінах. Размову са спадаром Урбанам прапануе журналіст Юрась Карманаў.**

***— Даволі часта айчынныя і замежныя журналісты ды палітолагі параўноўваюць беларускую сітуацыю са становішчам, у якім Чэхаславаччына знаходзілася 10 гадоў таму назад. На ўзор Хартыі 77 нават створаны беларускі рух "Хартыя 97". Ці сапраўды палітычныя сітуацыі настолькі падобныя, што можна сказаць пра перанос чэшскага досведу на беларускую глебу?***

— Я мяркую, што больш адрозненняў, чым падабенства ў сітуацыях. Але адно агульнае — апазіцыя не здольная перадаць за межы краіны свае ідэі, не здольная прыцягнуць увагу еўрапейскай ды сусветнай супольнасці, а таксама сродкаў масавай інфармацыі да праблемаў сваёй краіны. Гэта было галоўнай памылкай чэшскай апазіцыі ў 70-х і першай палове 80-х гадоў. І толькі ў другой палове 80-х нам удалося стварыць чэшскае лобі ў замежжы, якое мела надзвычайны эфект. Я мяркую, што зараз гэта з"яўляецца адной з найгалоўных задач беларускай апазіцыі. Калі перад палітыкам стаіць праблема: альбо загінуць, альбо выратаваць сваё жыццё, то ён абавязаны выратаваць сябе, бо інакш уся ягоная справа губляе сэнс.

З іншага боку, у параўнанні з нашай сітуацыяй 10 гадоў таму беларуская апазіцыя нашмат больш спрытнейшая. Яна пачала хадзіць у народ. Да прыкладу, у нас ніколі не было незалежных прафсаюзаў. У нас, у параўнанні з Беларуссю, ніколі не было столькі назваў незалежных газетаў ці самвыдата.

Калі гаварыць пра тое, што больш за ўсё аслабляе апазіцыю, то гэта — самаізаляцыя: адчуванне, што нас ніхто не можа зразумець і наша, маўляў, сітуацыя ўнікальная. Але, сыходзячы з уласнага вопыту, я магу сказаць, што меў рацыю Хемінгуэй, які назваў свет старой прастытуткай, што не мяняе свае звычкі. І ніхто ў свеце не абавязаны цікавіцца нашым болем і нашымі праблемамі. Гэта мы павінны прымусіць еўрапейскую і сусветную грамадскую думку зацікавіцца нашымі праблемамі. Гэта мы павіны шукаць шляхі, як дасягнуць поспеху. Беларуская апазіцыя павінна паказаць сябе і сітуацыю на Беларусі як цікавую. І прымусіць палітыкаў цікавіцца гэтым.

***— А цікавай сітуацыю ў краіне робяць сродкі масавай інфармацыі. Як еўрапейскія, так і амерыканскія. .Наколькі адчувальна, на вашу думку, прысутнасць беларускай тэмы ў сусветным друку?***

— Па-мойму, недастаткова. Трэба ўлічваць, што, напрыклад, наш часопіс цікавяць усе 27 посткамуністычных краінаў. У апошніх нумарах з"явіўся вельмі моцны артыкул пра Беларусь Аляксандра Лукашука. І пра унікальную сітуацыю на Беларусі трэба пісаць. З гэтым і звязаны мой прыезд.

Унікальнасць Беларусі ў тым, што вялікая частка людзей не жадаюць жыць у сваёй краіне, не жадаюць ведаць сваю мову і гісторыю. У еўрапейскім кантэксце гэтая сітуацыя вельмі істотная.

***— Але кантэкст (у тым ліку і ўспрыняцця краіны) фармуюць інтэлектуалы. Беларускія інтэлектуалы здолелі праартыкуляваць тэзу "Вяртанне ў Еўропу", якая зараз успрынята ўсімі беларускімі палітычнымі партыямі дэмакратычнага накірункуі. Ці пачулі гэта еўрапейскія інтэлектуалы – справа іншая. Можна казаць, што найбольшую ўвагу беларусы зараз адчуваюць з боку Польшчы. Хто яшчэ можа стаць для беларусаў партнёрам?***

— У нас быў той жа самы лозунг пасля 1989 года. "Вяртанне ў Еўропу". І гэта было да таго моманту, пакуль мы не ўсвядомілі, што нам няма куды вяртацца – мы ў Еўропе. Гэтае разуменне прыходзіць на Беларусь, і я гэта адчуў.

Зрэшты, і Еўропа розная. Тое, што паказалі заходнееўрапейскія краіны падчас вайны ў былой Югаславіі, – гэта баязлівасць. Для тых, хто вырас на ідэях абароны правоў чалавека ў 70-80-я гады , калі гэта было галоўнай часткай палітыкі Захаду, палітыка Захаду сталася вельмі чэзным расчараваннем.

Я згодны з вамі ў тым, што якраз Польшча паказвае астатнім еўрапейцам прыклад прыстойных паводзінаў у дачыненні да суседзяў, у якіх ёсць праблемы.

Тое пачынае рабіць і Вугоршчына, дзе да ўлады прыйшла зусім новая маладая генерацыя. Зараз і Чэхія пачынае разумець, што яна павінна глядзець не толькі сама на сябе.

У Заходняй Еўропе вельмі важна завязваць кантакты, асабліва з малымі краінамі. Такімі, як Нідэрланды, Данія, Швецыя, дзе вельмі актыўная замежная палітыка і якія вельмі паспяхова ўплываюць на размовы пра прыярытэты Еўрапейскага звязу.

***— Адным з вынікаў Вашага візіту на Беларусь, спадар Урбан, стала рашэнне пра адкрыццё на Беларусі ў наступным годзе бюро вашага часопіса "Транзішн". Вядома, што канцэпцыя часопіса прадугледжвае не толькі адсочванне і перадачу інфармацыі пра краіну, але і ажыццяўленне праектаў на тэрыторыі краіны. Што гэта будуць за праекты?***

— Мне падаецца, што калі ўдасца знайсці беларускіх партнёраў і фінансы, то адна з магчымых ідэяў нашага часопіса на Беларусі – пабудова структуры для маніторынгу сродкаў масавай інфармацыі ўвесну 99 года — за некалькі месяцаў да выбараў і некалькі месяцаў пасля. (Калі прэзідэнт Лукашэнка пагодзіцца на гэтыя выбары.) Бо паводзіны прэсы і электронных СМІ ў гэткіх істотных палітычных варунках маюць вялікае значэнне. Веданне пра тое, як сябе паводзяць сродкі масавай інфармацыі, хто спрабуе маніпуляваць імі, — заўсёды вельмі важнае.

## ВОЛЬГА КАРАТКЕВІЧ

### ЖАНЧЫНА Ў ЖУРНАЛІСТЫЦЫ: КРОПКА ЦІ ПЫТАЛЬНІК?



На пачатку ліпеня ў горадзе Маастрыхце (Нідэрланды) адбыўся арганізаваны Еўрапейскім цэнтрам журналістыкі семінар *для жанчынаў-журналістаў* з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы «Прамоцыя (*прамоўшн*) жанчынаў у журналістыцы».

Трэнерам была спецыяліст з Гамбургскага універсітэту (Нямеччына) Барбара Томас. «Чаму вы тут?» *- найперш спыталася* ў нас спадарыня Томас. Абсалютная бальшыня прадстаўніц журналістыкі з 13-ці краінаў рэгіёну адзначыла - высветліць, ці сапраўды правы жанчыны ў прафесійнай сферы лімітаваныя ў замежных краінах....

Вельмі часта ў праграмах канферэнцыяў, семінараў, прапанаваных заходнімі партнёрамі, прысутнічае так званае жаночае пытанне: колькі працэнтаў жанчынаў у *парламенце, колькі сярод міністраў, колькі сярод галоўных* рэдактараў газетаў і гэтак далей. Нібыта вялікі працэнтавы паказнік дэманструе становішча жанчыны ў грамадстве. Я добра памятаю, як на адной сустрэчы з журналісткамі Швецыі (краіны, дзе 50% міністраў - жанчыны) я распавядала, што выцянь ад міліцэйскай дубінкі нашая жанчына можа атрымаць такі ж моцны, як і мужчына... На што пачула заўвагу - не падзяляйце на мужчынаў і жанчынаў, калі йдзе гаворка пра такія парушэнні *правоў чалавека... Да мы й даўна ўжо не падзяляем!* У адзін голас журналісткі з Албаніі, Расіі, Югаславіі, Вугоршчыны, Польшчы, Харватыі, Эстоніі, Балгарыі, Румыніі сцвярджалі сваім нямецкім і галандскім калянжанкам, што актыўная, смелая і таленавітая жанчына мае вялікія шанцы на прафесійны поспех. Да пералічаных якасцяў трэба дадаць мужнасць, нялростае рашэнне адмовіцца ад паўнавартаснага асабістага жыцця, бо менавіта з"яўленне сям'і, дзяцей запыняе жанчыну на пэўным прыступку *прафесійнай лесвіцы*.

Праблемы ў Беларусі адметныя, і мне прыйшлося даводзіць: сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы настолькі неадназначныя й не прыдатныя для традыцыйнай схемы ацэнак і аналізу, што яны аднолькава дыскрымінуюць асобу незалежна ад полавай прыналежнасці. Калі ўлічыць, што ўзровень грамадскай адказнасці мужчыны, як правіла, вельмі высокі, то, відаць, немагчымасць несці дастойную ці адпаведную персанальным *дадзеным адказнасць за грамадства моцна* ўздзейнічае на псіхіку мужчынаў. Аказалася, што ў спадчыну ад камуністычнага ладу жыцця мы атрымалі адну перавагу - калісьці аб"яднаныя ў таварышы, цяпер мы не камплексуем ад прыналежнасці да жаночага полу. Так, ёсць скептычныя заўвагі з боку мужчынаў-журналістаў да аналітычных здольнасцяў жанчыны-журналісткі, але гэта на роўні канкрэтнай ньюс-рум, ёсць непрыхаваная мужчынская прафесійная рэўнасць да відавочных поспехаў жанчыны-калегі - пасада ў выданні ці арганізацыі, тэматычная ніша і гэтак далей. Але тым не менш гэтыя знаёмыя нам усім прыклады не дазволілі мне назваць іх грамадскай тэндэнцыяй, што, дарэчы, *можа стаць прадметам* дыскусіі на старонках «Чацвёртай улады». Абгрунтаванні *маёй пазіцыі наступныя* - ў «Народнай волі» на першай паласе першыя артыкулы - палітычнага аглядальніка газеты Людмілы Маслюковай. Ірына Халіп такі ж самы баец за дэмакратыю і правы журналіста, як і яе калегі-мужчыны. Можна сказаць: а як гэта даецца, якой цаной? Такой жа самай, як і мужчынам.

Але мы, удзельніцы семінару «Прамоцыя жанчыны ў журналістыцы», адну спецыфічную для жанчынаў праблему намацалі. Марыя Бнінска - рэдактар Super FM Radio (Польшча), журналістка з албанскай газеты Koha Jone Албана Касапі і карэспандэнт балгарскай штодзённай газеты Kontinent Daily Дэсіслава Дам"янава ўзнялі праблему сэксуальнага пераследу жанчыны з боку мужчыны, які можа быць спрыяльным фактарам у яе кар"еры. Аказалася, што прыкладаў і пытанняў шмат, а шляхоў развязання мала - хіба што рызыкнуць наўпрост у вочы сказаць, што «апякун» *памыляецца, ці сціпла заявіць* іншую сэксуальную арыентацыю. Нашыя краіны - не Амерыка - за шматзначны камплімент суда не выйграеш.

Заходнія калегі (Барбара Томас і палітычны журналіст Нідэрландскага тэлебачання Карла Ёстэн, якая, дарэчы, гаварыла, што ейная журналісцкая кар"ера - гэта шлях змагання) стараліся высветліць прычыну папулярнасці прафесіі журналіста сярод жанчынаў ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Марына Раласіч, сярэдняга веку галоўны рэдактар *харвацкага эканамічнага часопіса* «Banka», памяняла працу пяць гадоў назад - журналістыка дапамагае ёй цяпер матэрыяльна пачувацца лепш, таксама паўплывала жаданне быць заўважанай грамадскасцю.

Гарачыя дыскусіі выклікала пытанне: што такое поспех для жанчыны-журналісткі ? Люба Панчанка з Харкаўскага агенцтва тэлевізійных навінаў, рэдактар навінаў Эстонскага тэлебачання Крыстына Кірсіпю і іншыя *маладыя журналісткі назвалі свабодную працу*, добрыя для яе ўмовы і матэрыяльны дабрабыт у комплексе, а *таксама наяўнасць* даверу з боку сталых калегаў. Добрым каталізатарам стала прызнанне галоўнага рэдактара штодзённай румынскай папулярнай газэты «Revista 22» Габрыэлы Адамэштэну - маладым мужчынам-журналістам яна даварае больш, чым дзяўчатам. Поспехам называліся й пасады галоўнага рэдактара, пазіцыі ў журналісцкай арганізацыі, рэйтынг сярод чытачоў.

к гэта бывае *на семінарах, кожнае нашае слова* кіраўнік семінару Барбара Томас з Гамбургскага універсітэту *старанна занатоўвала*. Трэба ж урэшце Захаду высначыцца, ці маем мы рэальную дыскрымінацыю жанчыны, у тым ліку ў журналістыцы. Маё і маіх таварышак з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ўпартае адмаўленне дыскрымінацыі можна патлумачыць неразуменнем праблемы. Кожны канкрэтны журналіст можа лічыць сябе прафесійна спраўджаным ці не. Грамадская тэндэнцыя выкрышталізоўваецца ў дыскусіях. *Жанчына ў журналістыцы, у беларускіх мас-медыя - чым не тэма для дыялогу?*





## УЛАДЗІМІР ГЛОД

### НЯМЕЦКІМ ЖУРНАЛІСТАМ МОЖНА ПАЗАЙЗДРОСЦІЦЬ...

/Заканчэнне. Пачатак — у нумары 5/

Нас вельмі цікавіла, хто і як кіруе прэсай у Германіі? І ўвогуле, ці ёсць тут нейкі інстытут журналісцкіх куратараў? Высветлілася, што ў краіне існуе «Ведамства друку і інфармацыі федэральнага ўраду». Больш за тое, нам пашанцавала мець працяглую гутарку з намеснікам кіраўніка гэтай службы спадаром Гердам Пфлаумерам.

Ён патлумачыў: сродкі масавай інфармацыі у Германіі самастойна вызначаюць, што ім друкаваць альбо перадаваць у эфір. СМІ каментуюць і дзейнасць ураду. Тут, на мой погляд, важна адзначыць — прэзідэнт краіны і блізка не мае той улады, як наш. Галоўная і самая адказная фігура ў Германіі — канцлер, які з"яўляецца фактычным кіраўніком дзяржавы. Аднак нават Гельмут Коль не мае права ўплываць на форму альбо змест рэдакцыйных паведамленняў. Таму, тлумачыў Г.Пфлаумер, калі ўрад хоча, каб яго погляд на нейкую падзею дайшоў да чытачоў у пажаданым выглядзе, яму не застаецца нічога іншага, як заплаціць за публікацыю, як гэта робяць камерцыйныя прадпрыемствы альбо прыватныя асобы.

З другога боку, усе сродкі масавай інфармацыі павінны мець свабодны доступ да інфармацыі, якую прадастаўляе ўрад. І гэта не залежыць ад таго, што піша пра яго тое ці іншае выданне. Зразумела, чыноўнікам можа не спадабацца нейкі артыкул, але гэта не дае ім права весці дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да пэўных СМІ. Калі ж нейкая газета палічыць, што з ёй абыходзяцца несправядліва, яна звяртаецца ў суд. Не ўрад і не чыноўнікі, а менавіта незалежны суд, згодна з прынцыпам падзелу ўлад, вызначае — парушаны ў дадзеным выпадку закон ці не. У нас жа, як вядома, чыноўнік Балажынскі забараняе даваць інфармацыю для няўрадавых выданняў. І ўправы на яго не знайсці. Пракуратура, якая павінна была б займацца гэтай праблемай, паведамляе, што Савет Міністраў — па за межамі яе кампетэнцыі. А ў Германіі судовыя інстанцыі выносяць свой вердыкт і пры разглядзе пытання, як бы мовіць, з другога боку. Маюцца на ўвазе тыя моманты, калі закон, а больш правільна, абмежаванні для СМІ, парушаюць масмедыя.



Кіраўнік Саюза журналістаў ФРГ доктар Мейер



Злева направа:
прадстаўнік АБСЕ па СМІ спадар Дувэ,
супрацоўнік IBB-цэнтра ў Мінску
Віктар Балакіраў,
віцэ-прэзідэнт БАЖ
Уладзімір Глод

Праўда, як казалі нямецкія калегі, такіх выпадкаў фіксуецца зусім нямнога. Чаму? Як сведчыць практыка, парушэнні часцей за ўсё бываюць пры падрыхтоўцы сенсацыйных матэрыялаў. А іх на старонках сур"ёзных газет з"яўляецца ўсё менш і менш. Гэтая тэндэнцыя мае сваё абгрунтаванне — па-першае, так званая інтымная сенсацыя зараз ужываецца ў асноўным у бульварных газетах. Па-другое, салідныя выданні, калі і скарыстоўваюць сенсацыйную інфармацыю, дык пераважна тую, якую можна назваць «станоўча сенсацыйнай». Па-трэцяе, газеты проста спазняюцца ў параўнанні з тэлебачаннем і радыё, а таму вымушаны акцэнтаваць увагу на каментаванні падзеі, растлумачванні прычынна-выніковых адносін.

Аб Беларусі ў Германіі пішуць вельмі мала. Немцы разважаюць так: на Усходзе ад іх — Расія, у другім радзе бліжэйшыя суседзі з Польшчы ды Чэхіі, а Беларусь знаходзіцца дзесьці ў трэцім радзе. Дзіўна, але ў рэгіянальнай прэсе можна знайсці больш «беларускіх» матэрыялаў, чым у буйных выданнях. Але пераважная большасць з іх тычыцца адной тэмы — наступства Чарнобылю. Такі падыход зразумелы — менавіта Германія больш за іншых з краінаў далёкага замежжа дапамагае нам спраўляцца з бядою. Прычым як па недзяржаўнай, так і па дзяржаўнай лініі.

Безумоўна, усё, пра што мы даведаліся, надзвычай цікавана. Але для мяне асабіста самай карыснай была размова з прэзідэнтам Саюза журналістаў Германіі спадаром Мейерам. З яе я зразумеў наступнае. Арганізацыя налічвае больш за 30.000 чалавек. Саюзам у нашым разуменні назваць яе нельга, гэта ўжо хутчэй прафсаюз. Галоўнае, на чым канцэнтруюць увагу доктар Мейер і ягоныя па-

УЛАДЗІМІР ГЛОД

## НЯМЕЦКІМ ЖУРНАЛІСТАМ МОЖНА ПАЗАЙЗДРОСЦІЦЬ...



Супрацоўнік IBB-цэнтра ў Дортмундзе Петэр Вентруп

плечнікі, — заключэнне выгадных для журналістаў тарыфных пагадненняў. Гэтыя дакументы тычацца не толькі памеру заробкаў, але і працягласці рабочага дня, адпачынку і г.д. Калі разумныя патрабаванні не ўспрымаюцца выдаўцамі, Саюз заклікае сваіх сябраў да страйку. Апошніі страйк, напрыклад, цягнуўся адзін тыдзень. Ён каштаваў саюзу адзін мільён марак. Шмат? Безумоўна, але ў скарбонцы саюза ў той час было аж 15 мільенаў! Адкуль такія грошы? З сяброўскіх складанак. Памер месячнага ўзносу складае: мінімальны — 20 марак, максімальны — 50. «У дзяржавы мы не бяром грошай увогуле,— тлумачыў спадар Мейер. — Інакш мы рызыкуем згубіць нашу свабоду і трапіць у залежнасць ад чыноўнікаў».

Як прафсаюз Саюз журналістаў вельмі клапоціцца пра сваіх сябраў. Калі журналіст уступае ў прававую спрэчку, яговыя выдаткі бярэ на сябе саюз. І яшчэ адзін цікавы прыклад — саюз заключыў дамовы з пэўнымі фірмамі па вытворчасці аўтамабіляў. І калі журналіст набывае сабе аўто, яму робяць скідку на 10-15 працэнтаў ад кошту машыны. Падобная сітуацыя практыкуецца і пры набыцці сябрамі саюза кампутараў, фотаапаратаў ды іншай неабходнай журналістам тэхнікі.

Для таго, каб пайсці па прафсаюзным шляху, на думку спадара Мейера, трэба мець другі бок, а менавіта тых, з кім будуць весціся перамовы. У Германіі — гэта ўладальнікі выданняў. Ёсць яны і ў нас. Хаця цяжка ўявіць сабе, як, напрыклад, беларускі Саюз журналістаў будзе дыскутаваць пра памеры мінімальнага заробку, напрыклад, з уладальнікамі газеты «Советская Белоруссия» альбо «Рэспубліка». Чаму мінімальнага? А таму што, на думку доктара Мейера, пачынаць патрэбна менавіта з гэтага. А яшчэ, ён падкрэсліў, — трэба выхоўваць журналістаў у тым пачуцці, што яны будуць па-сапраўднаму моцныя толькі тады, калі аб"яднаюцца.

І на гэтым, бадай, можна спыніцца. Бо пра Германію можна расказваць бясконца. Але ж будзе куды лепей, калі мы замест гэтага скарыстаем нямецкі вопыт. І чым раней, тым лепш.




Малюнак Сяргея Казлова





# LESSON 3



Правядзенне інтэрв'ю

Правядзенне добрага інтэрв'ю — гэта і не мастацтва, і не навука. Гэта выйсце з сядзячага становішча.

Правесці добрае інтэрв'ю — гэта значыць звярнуць увагу: на тое, што адбывалася ў асабістым жыцці чалавека да таго, як вы з'явіліся да яго, каб узяць інтэрв'ю; на тое, як ён ці яна выглядаюць у фізічным і эмацыйным плане; і, натуральна, на тое, што ён ці яна кажуць.

Найлепшая тэхніка правядзення інтэрв'ю таксама залежыць ад стылю рэпарцёра, мэтаў інтэрв'ю, тыпу матэр'ялу, які будзе рыхтавацца, ад спадзеваў рэпарцёра і крыніцы інфармацыі, ад асабістых характарыстыкаў і настрояў абодвух бакоў. Таксама ёсць сэнс прадумаць стратэгію гутаркі перад кожным інтэрв'ю, але яна павінна быць гнуткай на выпадак, калі запланаванае не спрацоўвае.

*Парады*

*Рабіце частку працы дома*

Заўсёды добра загадзя даведацца нешта пра асобу, у якой вы бераце інтэрв'ю. Гэта здаецца відавочным, але многія журналісты не клапоцяцца пра гэта. Тут не ідзе размова пра тое, што трэба вычарпальна кагосьці вывучыць. Але някепска азнаёміцца з гісторыяй працоўнай дзейнасці або набыцця адукацыі вашага рэспандэнта, хаця б дзеля таго толькі, каб пазбегнуць марнавання часу на пытанні, адказы на якія можна было б атрымаць загадзя па тэлефоне.

Калі інтэрв'ю дастаткова важнае, то перад ім звярніцеся да чальцоў сям'і, калегаў па працы або іншых асобаў (у гэтым ліку і ворагаў) вашага рэспандэнта. Таксама добра загадзя даведацца пра якія-небудзь цікавыя гісторыі; яны звычайна спрыяюць нараджэнню новых аповедаў, інфарматыўных або вясёлых, якія можна распавесці. Усё гэта дапаможа вам надаць вашаму сюжэту завершанасць.

*Рабіце выгляд чалавека дасведчанага, нават калі вы маеце справу з незнаёмымі для вас праблемамі*

Ці будзе вашым суразмоўцам прэзідэнт вашай краіны або прэзідэнт буйной карпарацыі, вы павінны быць упэўненыя ў вашым праве задаць любое разумнае пытанне. На вас не павінны ўплываць ні чын, ні багацце, ні сацыяльнае становішча. Інтэрв'ю – гэта проста размова аднаго чалавека з іншым. Вы павінны быць ветлівыя з усімі вашымі рэспандэнтамі, але інтэрв'ю, падчас якіх рэпарцёры відавочна выказваюць боязь сваіх суразмоўцаў, звычайна сканчаюцца няўдачай. Як рэпарцёр, вы задаяце пытанні ад імя вашых чытачоў. Рэпарцёры павінны дагаджаць не сваім рэспандэнтам, а чытачам.

*Не гаварыце занадта многа*

Маўчанне з'яўляецца адной з эфектыўных тэхнік правядзення інтэрв'ю. Калі цішыня зацягваецца, людзі часта адчуваюць патрэбу запоўніць яе словамі. Дазвольце ім рабіць гэта і чакайце, пакуль яны не скончаць, перш чым задаць наступнае пытанне. Таксама большыня людзей думае, што вашае маўчанне азначае згоду, і вельмі верагодна, што яны будуць працягваць гаварыць.

*Не губляйце кантроль над ходам інтэрв'ю*

Гэтае істотнае правіла выконваецца, калі метад маўчання не спрацоўвае. Інфарматар мог бы, напрыклад, зразумець вашае маўчанне гэтак, быццам бы інтэрв'ю завершанае, і падняцца, каб сысці. Маўчанне — гэта тэхніка, а не адсутнасць аднаго з удзельнікаў гутаркі. Людзі, у якіх бяруць інтэрв'ю або якія выступаюць з публічнай прамовай, могуць рэагаваць на маўчанне не лепшым чынам, прынамсі, з гледзішча рэпарцёра. Асабліва палітыкі могуць запаўняць цішыню пустой рыторыкай і загадзя падрыхтаванымі рэмаркамі, якія часта не маюць аніякай карысці. У гэткіх варунках вельмі важна своечасова перапыніць гэтую рыторыку, прымушаючы суразмоўцу адмовіцца ад сваіх падрыхтаваных заўвагаў.

Гэта можа аказацца нялёгкай справай, асабліва ў выпадку з загартаванымі палітыкамі, якія прызвычаіліся бясконца пераскокваць у гутарцы з прадмету на прадмет. Важна задаваць тыя пытанні, якія вам трэба задаць, і паўтараць іх зноў, калі на іх не будзе адказу.

Мэтай большасці інтэрв'ю з'яўляецца дабіцца таго, каб суразмоўца выказваўся спантанна. Цішыня пасля зададзенага пытання часта добра спрацоўвае, асабліва ў выпадку з людзьмі, у якіх не багаты досвед зносінаў з рэпарцёрамі. Але часам здараецца, асабліва калі людзі не хочуць, каб у іх бралі інтэрв'ю, што ад іх немагчыма дабіцца нічога, апроч "так" і "не". Адзін са спосабаў пазбегнуць праблемы з гэткімі адказамі — гэта задаваць больш складаныя пытанні.

Іншая тэхніка палягае ў тым, каб адступіць ад сапраўдных інтарэсаў, якія вы цікуеце, беручы інтэрв'ю, і правесці колькі часу, дабіваючыся, каб асоба звыклася адказваць на простыя пытанні. Багата каму падабаецца, калі ў іх запытваюць іхняе меркаванне, і яны бываюць больш схільныя да адказаў, калі адчуваюць сабе ўтульна.

*Апранайцеся адпаведна сітуацыі*

Агульнае правіла — апранайцеся нагэтулькі ж строга, як і ваш суразмоўца, або крыху больш сціпла.

Калі вы бераце інтэрв'ю ў фермера, то не апранайцеся ў дарагі строй з трох прадметаў. Ці паставіцца фермер да вас тады з даверам? Апраніце джынсы і абуйце чаравікі або апраніцеся блізка да таго, як ап-

# LESSON 3

ранаецца сам фермер, але не фальшыўце. З *іншага* боку, сачыце за тым, каб быць апранутымі дастаткова строга, калі вы бераце інтэрв'ю ў асобы, якая мае прэстыжнае або ўплывовае грамадскае *становішча*. Вам трэба даць ім зразумець, што вы таксама адчуваеце сябе "ў сваёй талерцы" ў выпадках, калі трэба прадэманстраваць сваю моц. І тут *не гэтак істотна*, як вы апранутыя: галоўнае не сфальшывіць, бо вы не прафесійны актор. Найлепшае інтэрв'ю — гэта калі рэпарцёр проста задае пытанні, а суразмоўца *на* іх адказвае.

*Абірайце ваш стыль у адпаведнасці з лімітам часу, якім вы валодаеце*

Калі ў вас ёсць толькі дзве хвіліны на тэлефонную размову, адразу пераходзьце да сутнасці справы. Добра адбярыце *вашыя* пытанні — вы зможаце атрымаць за дзве хвіліны дзесяціхвілінавую інфармацыю, калі зробіце ўсё слушна. Але калі суразмоўцы спадзяюцца *на нязмушаную гутарку перад* тым, як перайсці да справы, то вы маглі б правесці падобныя экспрэс-размовы амаль з кожным з суразмоўцаў. Вам гэта будзе *толькі на* карысць, і вы зможаце кантраляваць сітуацыю, бо бальшыня адказаў будзе цалкам прадказальная. І вельмі лёгка будзе падтрымаць станоўчы *настрой на* гутарку.

*Не ўсе суразмоўцы аднолькавыя*

Змяняйце тэхніку вашых інтэрв'ю ў залежнасці ад таго, кім з'яўляецца *канкрэтная* асоба і якая інфармацыя вам патрэбная. Відавочна, многія рэпарцёры гэтага не робяць. Калі вы імкняцеся толькі атрымаць *статыстычныя* дадзеныя ад кагосьці, чые службовыя абавязкі і палягаюць у тым, каб даць вам належную інфармацыю, то будзьце ветлівыя і канкрэтныя. *Па* заканчэнні ветліва развітайцеся. Не давайце паставіць сябе ў няёмкае становішча асобай, якая хоча проста пабалбатаць, але якую зусім не цікавіць ваш матэр'ял. (Хаця, звярніце ўвагу, ці не падалі б такія асобы вам ідэі іншых сюжэтаў.)

Калі вы размаўляеце з кімсьці, хто мае значэнне для *вашага* сюжэту, то пратрымайце яго ці яе ля тэлефону столькі, колькі зможаце (але ў межах разумнага). Калі прэзідэнт нейкай кампаніі ахвяраваў вам 10 хвілін, лічыце за хібу, калі вы не здолелі дабіцца 15-хвіліннай гутаркі. Калі вы добра праводзіце гутарку, то прэзідэнт захоча працягнуць размову. Калі ён ці яна гатовыя спыніць гутарку, паспрабуйце папрасіць: "Яшчэ толькі два невялічкія пытанні" і, калі зможаце, запытайце болей.

*Дасціпна прадумвайце, дзе праводзіць інтэрв'ю*

Вырашэнне гэтага пытання можа залежаць ад шматлікіх чыннікаў, у прыватнасці, ад таго, наколькі вялікі сюжэт і якога ён кшталту. Бальшыня асабістых якасцяў суразмоўцаў найлепей праяўляецца ў іх дома або ў офісе. Для звычайных сюжэтаў сустрэча самнасам у офісе можа дапамагчы збліжэнню, якое будзе на карысць рэпарцёру. Інтэрв'ю сам-насам, хаця і займае час, з'яўляецца найлепшым. Багата што з таго, аб чым гутараць людзі, застаецца нявыказаным. Мова рухаў, выразы твару і іншыя чыннікі могуць адыгрываць вельмі важную ролю.

Але не недаацэньвайце значэнне тэлефоннага інтэрв'ю. Здольны рэпарцёр можа зрабіць, каб суразмоўца адчуваў сябе цалкам камфортна ў тэлефоннай размове. Часам, ужо дзеля таго што суразмоўцы знаходзяцца ў сябе дома або ў офісе, яны могуць адчуваць сябе больш утульна, чым падчас асабістай гутаркі. А гэта можа спарадзіць больш моцныя выказванні вашых суразмоўцаў, якія ўзбагацяць ваш рэпартаж.

Важнае інтэрв'ю пачынайце з агульных пытанняў, сканчайце канкрэтнымі; пачынайце з лёгкіх пытанняў, сканчайце складанымі.

Можа так здарыцца, што вам, нарэшце, выпадзе ўзяць увогуле першае інтэрв'ю ў самага багатага чалавека вашай краіны; магчыма, гэта будзе інтэрв'ю з урадавым міністрам, якога даўно падазраюць у карупцыі. Хто б гэта ні быў, важнае інтэрв'ю можа прымусіць нават вельмі дасведчанага рэпарцёра запыніцца і разважыць, што ён ці яна збіраюцца рабіць.

Як правіла, пачынайце з агульных пытанняў, а сканчайце канкрэтнымі. Пачынайце *таксама з лёгкіх* пытанняў, а сканчайце складанымі.

Напрыклад, вы бераце інтэрв'ю ў карумпаванага бізнэсмэна, які падманваў сваіх *акцыянераў*, у ягоным офісе. Вы маглі б пачаць так: "Цікавая скульптура ў вас на стале." Ён, напэўна ж, лічыць гэтак жа і адкажа вам, што, так, *гэта сапраўды Дэгас (Degas)* і што набыў ён яе смешным коштам на леташнім аўкцыёне ў Крысці. "О, сапраўды, – уразіцеся вы, – і як танна?" Ён, мабыць, скажа: "*За палову запытанага кошту*". Гэтая, здавалася б, нязмушаная гутарка дасць яму магчымасць адчуць сябе больш утульна і выдаць тую інфармацыю, якую вы выкарыстаеце ў вашым сюжэце.

Працягвайце задаваць простыя і агульныя пытанні, *пакуль не пяройдзеце да больш спецыфічных*, накшталт: "Ці купляла калі-небудзь вашая кампанія нафтавыя свідравіны, як вы некалі заяўлялі?" Затым выньце *адпаведныя дакументы* і пакажыце яму. Спрачайцеся з ім, калі ў гэтым будзе патрэба, – гэта часта прымушае рабіць больш моцныя выказванні.

*Прыпісвайце* крытычныя выпады невядомым трэцім асобам, напрыклад: "Сп. Бізнэсмэн, вы ведаеце, што ў вас ёсць крытыкі. Некаторыя кажуць, што *фірма, падчас вашага ёй кіравання*, набыла дарагую скульптуру Дэгаса". Гэтае пытанне, хаця і крытычнае, але менш жорсткае, чым пытанне: "Ці праўда, што вы ўкралі грошы інвестараў і набылі дарагі твор мастацтва?"

Гэты прыём можа падтрымаць прыязнасць у *самых складаных* інтэрв'ю і даць магчымасць рэпарцёру задаць што болей пытанняў.








## МІТЫНГ РАБОЧЫХ У МІНСКУ




## 16 ЛІПЕНЯ 1998 г.

